# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 2 (18) 20 студзеня 1929 г. № 2 (18)

ЗЬМЕСТ.



## Партнарада па пытаньнях асьветы.

Усе асноўныя задачы, якія стаяць перад савецкай краінай, могуць быць пасьпяхова вырашаны толькі пры ўмове ліквідацыі масавай агульнай і тэхнічнай няпісьменнасьці. Вось чаму пытаньні разьвіцьця культурнай працы ў краіне, зьместу яе, увязкі дзейнасьці ўстаноў народнай асьветы з бягучымі задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і з культурнымі запатрабаваньнямі шырокіх мас працоўных ня могуць ня стаць зараз у цэнтры ўвагі ў ёй пралетарскай грамадзкасьці.

Больш 5 год мінула з дню першай партыйнай нарады па народнай асьвеце. За гэты час Савецкі Саюз меў вялікія дасягненьні на шляху будаўніцтва сацыялізму. Маюцца гэтыя дасягненьні і ў галіне народнай асьветы. Узросшыя, аднак, культурныя запатрабаваньні працоўных і патрэбы перабудоўваемай на сацыялістычных падставах народнай гаспадаркі выявілі шмат недахопаў і дыспрапорцый як ва ўсёй сыстэме народнай асьветы, так і ў працы паасобных зьвеньняў гэтай сыстэмы.

Другая партыйная нарада па народнай асьвеце, намечаная да скліканьня на бліжэйшы час, павінна ўлічыць пройдзены шлях, выявіць існуючыя недахопы і намеціць асноўныя дырэктывы па забясьпечаньню ўмоў далейшага росту і разьвіцьця народнай асьветы ў краіне і яе шчыльнейшай увязкі з патрэбамі сацыялістычнай гаспадаркі.

У праграме партыі ў аддзеле народнай асьветы вызначан шэраг прынцыпаў, забясьпечваючыхператварэньне школы **«са зброі клясавага панаваньня буржуазеі ў зброю поўнага зьнішчэньня падзелу грамады на клясы, у зброю камуністычнага перараджэньня грамады»**. У якасьці бліжэйшых задач на гэтым шляху праграма партыі намячае шэраг мерапрыемстваў. Тут і «правядзеньне бясплатнай і абавязковай агульнай і палітэхнічнай адукацыі для ўсіх дзяцей мужчынскага і жаночага стату да 17 год», «поўнае ажыцьцяўленьне прынцыпаў адзінай працоўнай школы з выкладаньнем на роднай мове, аб сумесным навучаньні дзяцей абодвых станаў, безумоўна сьвецкай, г. зн. вольнай ад усялякага рэлігійнага ўплыву, праводзячай шчыльную сувязь навучаньня з грамадзка-вытворчай працай, падрыхтоўваючай усебакова разьвітых членаў камуністычнай грамады», і «усебаковая дзяржаўная дапамога самаадукаваньню і самаразьвіцьцю рабочых і сялян», і «шырокае разьвіцьцё прафэсыянальнай асьветы для асоб ад 17-гадовага ўзросту ў сувязі з агульнымі палітэхнічнымі ведамі».

Праверыць, наколькі дырэктывы, дадзеныя ў праграме партыі, праведзены ў жыцьцё, выявіць прычыны, якія перашкаджаюць поўнаму ажыцьцяўленьню прынцыпаў разгортваньня народнай асьветы вызначаных у праграме партыі,—асноўная задача партнарады.

Зразумела, што важнейшае значэньне ва ўсёй працы па народнай асьвеце маюць тыя тыпы ўстаноў, якія носяць масавы характар і ахапляюць шмат мільёнаў дзіцячага насельніцтва. Вось чаму ў парадку дню партнарады асобнымі дакладамі выдзелены такія пытаньні, як школа І-й ступені, школа ІІ-й ступені і масавая прафасьвета. Між тым, іменна ў адносінах школы ІІ-й ступені і масавай прафасьветы маецца вялікая розьніца ў сыстэмах народнай асьветы, існуючых у розных Саюзных рэспубліках. Праверыць, якая з існуючых сыстэм зьяўляецца найбольш прыстасаванай да культурных запатрабаваньняў працоўных, да інтарэсаў разьвіцьця народнай гаспадаркі і зьяўляецца мэтаю гэтых дакладаў.

Ва ўсёй дзейнасьці савецкай улады па народнай асьвеце вялікае значэньне заўсёды надавалася нацыянальнай культуры. Падагнаць гістарычна адсталыя ў культурных адносінах народнасьці Савецкага Саюзу, забясьпечыць за культурна-слабымі нацыянальнымі меншасьцямі найбольш спрыяючыя ўмовы для іх культурнага росту—было сталай турботай кампартыі і савецкай дзяржавы. Вось чаму на партнарадзе па народнай асьвеце асобным пунктам стаіць пытаньне аб нацыянальнай школе.

Школьныя пытаньні як арганізацыйнага, так і праграмна-ідэалёгічнага парадку, пытаньні сыстэмы народнай асьветы і, урэшце, пытаньні нацыянальнай асьветы павінны зараз шырока асьвятляцца на рабочых і сялянскіх сходах, на пасяджэньнях саветаў, на парт'ячэйках, сярод камсамолу, сярод настаўніцтва і г. д. Толькі тады, калі практыка „школы, як яна ёсьць“ будзе шырока абмеркавана працоўнымі масамі, партнарада атрымае жывы, аб'ектыўны матар'ял, які дасьць магчымасьць вызначыць правільныя шляхі да далейшага разьвіцьця народнай асьветы ў інтарэсах пралетарыяту.

М. Э—н.

# Кожны—сам сабе закон.

## Калдагаворная кампанія зацягваецца беспадстаўна.

Яшчэ перад пачаткам бягучага 28-29 гаспадарчага году саюзныя органы і саюзныя масы асьветнікаў наогул прыступілі да праверкі выкананьня існуючых калдагавораў: абмяркоўваліся існуючыя калдагаворы на пасяджэньнях групкомаў, раймясцкомаў нарадах прфдэлегатаў, агульных сходах асьветнікаў, пасяджэньнях праўленьняў і падводзіліся вынікі невыкананьня тых ці іншых пунктаў калдагавораў, прымаліся новыя прапановы, даваліся дырэктывы саюзным органам наконт напрамку будучай працы пры правядзеньні кампаніі па перадтварэньню калдагавораў. Шмат аб сваечасовым заканчэньні калдагаворнай кампаніі пісалася і ў друку. Былі па гэтаму пытаньню канкрэтныя ўказаньні і па лініі законадаўчых і вышэйшых прафсаюзных органаў, але-ж, як відаць, некаторым адміністратарам усяго гэтага мала. Ня гледзячы на тое, што калдагаворная кампанія павінна была закончыцца да 1 студзеня, у некаторых акругах, як **Полацкая**, на 1-га студзеня ніводзін райвыканком не падпісаў калдагавору.

Вось што паведамляюць з Полацку:

> „Ня гледзячы на тое, што пытаньне перазаключэньня калдагавору было сваечасова падрыхтавана, разасланы праекты па РМК, а таксама прасілі АВК даць указаньні РВК, каб апошнія не зацягвалі падпісаньне дагавораў, да 1-га студзеня ніводзін з РВК дагавору не падпісаў. Частка з іх адмовіліся абгаварваць праэкт да зацьверджаньня каштарысу (Ветрынскі), а іншыя (напр., Лепель) спрачаюцца па пытаньнях зусім не прынцыповага характару, а разам з гэтым ня хочуць падпісаць пункт, што сродкі на патрэбы асьветы павінны скарыстоўвацца пры ўдзеле саюзу і г. д.».

Па атрыманых вестках, і ў іншых акругах (**Бабруйшчына, Аршаншчына, Меншчына**) справа стаіць мала лепш.

Амаль палавіна раёнаў яшчэ і да гэтага часу не ўтварылі калдагавораў, а калі і падпісалі, дык столькі выставілі спрэчных пунктаў, што вырашэньне іх яшчэ на доўгі час адтэрміноўвае ўпарадкаваньне гэтага пытаньня.

Характэрна—аб чым спрачаюцца некаторыя райвыканкомы. Вось **Полаччына**. «Ня хочуць падпісаць пункт, што сродкі на патрэбы асьветы павінны скарыстоўвацца пры ўдзеле саюзу».

Вось вам і кантроль саюзнай масы, вось вам і падстава дзеля дапамогі саюзных органаў і наогул асьветніцкай масы ў наладжваньні і палепшаньні становішча асьветных устаноў. Цікавіцца, як мы выдаткоўваем адпушчаныя сродкі на справу народнае асьветы—ня ваша справа! Сядзіце і знайце сваю ўстанову, а „ў чужое проса ня тычце носа“.

А ёсьць і такія райвыканкомы, якія, мабыць проста наўмысьля, каб зацягнуць справу з падпісаньнем калдагавору, імкнуцца ў калдагавор устаўляць такія пункты, якія яўна супярэчаць існуючаму законапалажэньню і якія, бязумоўна, немагчыма прыняць.

У 69 артыкуле «Кодэксу Законаў аб Працы» ясна сказана, што калі працаўнік ідзе ў чарговы адпачынак, дык пэнсія яму павінна выплачвацца наперад, а **Плешчаніцкі райвыканком** (Меншчына) разважае: «Што закон! Частку заплачу перад адпачынкам, а другую—і пасьля адпачынку».

67 артыкул «Кодэксу Законаў аб Працы» гаворыць: «Уплата вознаграждения производится в рабочее время и в месте совершения работы», а **Чэрвенскі райвыканком** лічыць, што калі працаўнік хоча атрымаць сваю зарплату па месцу працы, дык «перасылка пэнсіі працаўнікам па месцу іх працы робіцца за іх рахунак».

Значыць, калі хочаш, працаўнік, атрымаць сваю заработную плату па месцу працы, плаці за дастаўку, а не дык едзь у раён за 20-25 кілёмэтраў, траціся на фурманку і прапускай працоўныя дні, або ня май дзен адпачынку, калі ня хочаш згубіць працоўны дзень.

А вось **Узьдзенскі райвыканком** лічыць, што пастановы СНКБ ад 30-VII 28 г. адносна кватэрных настаўнікам школ сацыяльнага выхаваньня для яго неабавязкова. Такой думкі прытрымліваецца і значная частка райвыканкому **Бабруйскае акругі**. Яны лічаць, што „Закон ня воўк—у лес не пабяжыць“, а мы яго будзем ажыцьцяўляць так, як каму падабаецца. І вось ажыцьцяўляюць: хто зьбіраецца, замест 10 проц. на кватэрныя з асноўнага акладу даць 3-4 рублі; хто лічыць, што ў негарадзкіх сямігодках настаўніцтву наогул можна ня даць ні кватэр, ні кватэрных, напрыклад **Узда**, а хто лічыць, што можна даць толькі настаўнікам І-га канцэнтру сямігодак, а ІІ-му—не даваць ні кватэр, ні кватэрных і г. д.

Адным словам, хто як хоча, так і імкнецца тлумачыць і выконваць існуючыя законы.

А ёсьць і такія раёны, якія да гэтага часу яшчэ ніякага калдагавору ня прыслалі—**Астраш.-Гарадок, Заслаўль, Бягомль, Капыль і інш.**, хоць ужо ўсякія тэрміны аб сканчэньні калдагаворнай кампаніі скончыліся.

Такія ўмовы перадтварэньня калдагавораў дадатнага даюць мала, яны толькі нэрвуюць працаўнікоў і наогул ствараюць лішнюю і нікому не патрэбную валакіту.

**Мельнік.**

---

# Бярыце прыклад.

Настаўніцтва **Капаткевіцнага раёну, Мазырскай акругі** досыць добра зразумела, што бяз пісьменнасьці нельга пабудаваць сацыялізму і таму шырока разгарнула працу па ліквідацыі напісьменнасьці сярод насельніцтва раёну.

У гэтым годзе дасягнута рэкордная лічба як па колькасьці існуючых лікпунктаў, так і па ахопу імі няпісьменных у параўнаньні з мінулымі гадамі.

Па раёну ў сучасны момант існуе 33 лікпункты, на якіх вучыцца 877 няпісьменных. На гэтых 33 лікпунктах, па матар'ялах мясцкому працасьветы, працуе пяць спэцыяльных ліквідатараў няпісьменнасьці, чатыры настаўнікі за плату, а рэшта лікпунктаў абслугоўваецца школьнымі настаўнікамі бясплатна, у парадку грамадзкай працы.

Школа-сямігодка таксама сіламі вучняў ліквідуе няпісьменнасьць сярод 150 чалавек.

Поруч з ліквідацыяй няпісьменнасьці праводзіцца значная праца па ліквідацыі малапісьменнасьці, што асабліва каштоўна, прымаючы пад увагу частыя зьявішчы няпісьменнасьці сярод скончыўшых лікпункты. У школах малапісьменных навучаецца 133 чалавекі. У школах малапісьменных настаўнікі таксама працуюць у парадку грамадзкай працы.

Калі-б і па іншых раёнах БССР так шырока была разгорнута праца па ліквідацыі няпісьменнасьці, дык можна было-б быць упэўненым у хуткім зьнішчэньні няпісьменнасьці сярод працоўных нашай краіны.

**М.**

# Самакрытыка ў разуменьні старшыні Дзяйкуна.

15 год працавала тав. Казюліч у якасьці настаўніцы вясковае школы: 11 год—на Барысаўшчыне і 4 гады ў в. Карчоўі (Хойніцкі р., Гомельскай акр.).

Працавала добра, спраўна, і інспэктура ёй задаволена (што відаць з візітацыйных спытках), і насельніцтва, асабліва бедната і жанчыны, кажуць: «Няма што казаць, настаўніца добрая».

Ня гледзячы на тое, што Казюліч у школе (дзякуючы маленькай плошчы) занята літаральна з цямна да цямна (2 зьмены), яна знаходзіць час і для грамадзкай працы, якую яна выконвае бяз грошай, займаецца на лікпункце (2 вечары ў тыдзень).

Арганізавала ячэйку «ПН», працуе старшынёй ячэйкі МОПР'у, зьяўляецца сябрам рэвізійнае камісіі сельсавету, робіць кожны тыдзень галосныя чыткі ў чырвоным кутку, дапамагаючы чырвона-кутніку ў яго штодзённай працы.

І сельсавету лягчэй з ёй; яна сама падшукае хату пад школу і зробіць умову з гаспадаром, яна арганізуе і лікпункт. Усё ішло, як кажуць,—як па маслу. Але, як на бяду, зьявілася гэта самая самакрытыка. Далі права крытыкаваць дзеяньні нават такіх адказных асоб, як старшыня сельсавету, сябра партыі.

Пачалося з дробязі: у парадку правядзеньня комплексу «наш раён» патрабавалася абсьледваньне сельсавету. Пайшла пара вучняў у канцэлярыю сельсавету да самога старшыні т. Дзяйкуна. Пытаюць аб працы сельсавету, чаму спазьніліся з перавыбарамі і інш.

— А што-ж ваша за настаўніца, калі яна ня ведае?—кажа з ухмылкай старшыня.

Здавалася-б, на гэтым справа магла-б і скончыцца. Аж, на няшчасьце, абралі настаўніцу на агульным сходзе сялян у камісію па складаньні рэзалюцыі-наказу.

Добра ведаючы курс партыі і Савецкае ўлады на культурную рэвалюцыю, яна падала прапанову—адзначыць сувязь сельсавету са школай і лікпунктам нездавальняючай, прапануючы ўсебакова палепшыць яе.

— На якой такой падставе „нездавальняючая"—закрычаў абураны старшыня.

Настаўніца спраўна растлумачыла:
— За два гады сельсавет ні разу не заслухоўваў дакладу ні школы, ні лікпункту, зусім ня цікавіўся працай школы, а калі вучні прышлі на абсьледваньне, дык старшыня намалоў чаго ня трэба.

Тут ужо абурэньне старшыні вышла за межы.

— Сабака, гнаць трэба такіх!—пасыпалася на галаву настаўніцы, і яна нават змушана была пакінуць пасяджэньне.

Праз некаторы час склікаюць жаночую сходку. Старшыня робіць справаздачу.

Выступілі дзьве сялянкі, выступае трэцяй т. Казюліч. Кажа аб тым, што абранай у сельсавет жанчыне трэба даваць нагрузку, як і іншым сябрам, кажа, што пры выбарах нарзасядацеляў забыліся пра жанчын: выбралі ўсіх 3 мужчын. Кажа таксама і пра грубасьць старшыні, які за матам у кішэню ня лезе, асабліва з жанчынамі.

Ну тут старшыня ўжо зусім распіразаўся:

— Казюліч, як работніца, зусім не гадзіцца! **Яна адважылася сябру партыі сказаць „малоў"**! Я пастаўлю аб ёй пытаньне, дзе належыць!..—такі характар насіла заключнае слова старшыні Дзяйкуна.

— Калі-б не ўмешаліся ў справу РМК і акрпрацасьветы, ма'быць заказалася б я выступаць з крытыкай,—у распачы кажа т. Казюліч.

Трэба думаць, што райком КП(б)Б, матар'ял якому ўжо дастаўлен, растлумачыць бюракратычнаму старшыні Дзяйкуну сэнс самакрытыкі.

**Л. Кужалеў.**

# ЧАРНЕНКАЎСКІЯ ДЗЯГІ.

Сьцюдзёны асеньні вецер паласкаў у паветры пажоўклыя грывы бяроз. Дождж бяз літасьці сьпябаў у твар, калі малады настаўнік Чарненка, скончыўшы толькі ўвесну падтэхнікум, набліжаўся да вёскі Ваўкоўшчына (Аршанскай акр.), у якую ён быў прызначан.

Пасьля шумнага гораду не спадабалася Чарненку Ваўкоўшчына, якая раскінулася ў самым глухім і далёкім кутку Круглянскага раёну, у Стаінскім сельсавеце.

Але новае жыцьцё, практычная праца, схапіўшыя аберуч Чарненку, змусілі яго забыцца пра ўсё і ўзяцца за навучаньне дзяцей.

Прыём у школу і першыя крокі знаёмства з праграмаі прайшлі ў Чарненкі досыць гладка. Інспэктар асьветы, які прыехаў, каб даць напрамак далейшай працы Чарненкі, як маладога настаўніка, быў задаволен яго першымі крокамі і з упэўненасьцю, што праца далей пойдзе добра, ён пакінуў школу. Заняўшыся абсьледваньнем іншых школ, ён больш не наведваў Чарненку.

Чарненка зажыў новым жыцьцём. Кожны новы дзень прыносіў усё новае і новае для яго як асабістага жыцьця, так і для жыцьця, зьвязанага з працай у школе.

Як і ўсюды, вясковыя дзеці пачалі ў школе крыху парушаць дысцыпліну. Чарненка знаходзе з гэтага выхад. Ён пачынае выклікаць у школу бацькоў вучняў. А ў бацькі выхаваньне вядомае: яны тут-жа пры настаўніку і вучнях пускалі ў ход дзягу. Бачучы гэта, Чарненка далей ня выклікаў бацькоў, а тэй-жа самай дзягай пачаў біць вінаватых сам.

Жывучы ў глушы Чарненку папягнула да знаёмства, і яго маладое нутро хутка сярод вясковых хлапцоў знайшло сабе таварышоў. Яны сталі неразлучнымі сябрамі і нават дапамагалі яму ў яго штодзённай працы.

Чытача мабыць цікавіць у чым канкрэтна выяўлялася іхная дапамога? А вось у чым: Чарненка вёў лекцыю, дык яго сябры хадзілі паміж лавак з чарненкаўскімі дзягамі і ўпіхаміравалі без таго ціха сядзеўшых дзяцей.

Падыходзілі зімовыя вакацыі, і райінспэктар рашыў абсьледваць ваўкоўшчынскую школу. Пры абсьледваньні ўсе гэтыя недарэчнасьці былі выкрыты. Выхаваньне пастаўлена кепска, ня лепшыя вынікі і ў навучаньні дзетвары.

На ўсе заўвагі інспэктара Чарненка адказваў вельмі халаднакроўна, а на пасяджэньні РКК, дзе разглядалася аб ім справа, нават згаджаўся на зьняцьце яго з працы. Але чамусьці справу залагодзілі і абмежаваліся толькі вымовай.

Невядома—ці паправіцца ў далейшым малады настаўнік і ці возьмецца за працу так, як гэтага патрабуе наша сучаснасьць ад настаўніка, выхаванага ў пралетарскіх умовах.

Працаваць можна, але Чарненку штосьці ня вабіць цёмная вёска.

**Міх. Зв.**

# Працоўныя працэсы ў школе.

У апошнія гады працоўныя працэсы ў значнай частцы наших школ пачынаюць набываць рэальную форму і даюць належныя вынікі. Некаторыя школы, пераважна гарадзкія сямігодкі, заснавалі з вучнямі шэраг рамясловых гурткоў: сталярныя, сьлясарныя, пераплётныя, кройкі і шыцьця, радыё і г. д.

Зразумела, што ніводная школа праз гурткавую працу ня ставіць сабе мэтай зрабіць са свайго вучня рамесьніка спэцыялістага-прафэсыянала, а лічыць патрэбным і мэтазгодным даць свайму выхаванцу элемэнтарныя веды з галіны таго ці іншага рамясла. Гэта ў будучыне можа быць яму дапамогай у жыцьці.

Адначасова з гэтым, гурткавая праца можа да некаторай ступені ў паасобных выпадках быць увязана і са зьместам комплексу, або паасобных дысцыплін, як, напр.: розныя разьлікі і разрахункі, вырабы геамэтрычных фігур, прыладаў, мадэляваньне, выраб карысна а і патрэбнага дзеля школы і дому (пераплёт кніжок школьнае бібліатэкі, шыцьцё гарнітураў для спэктакляў і інсцэніровак і г. д.). Зразумела, што набытыя ў школе веды вучні належна скарыстоўваюць і дома ў штодзённым жыцьці.

Праўда, тут ёсьць адна недарэчнасьць. гэта тое, што гурткавой працай нельга ахапіць усіх вучняў вялікіх школ, і ёю занята толькі невялічкая частка. Але з цягам часу і гэта хіба будзе выпраўлена пры дапамове кіруючых і гаспадарчых органаў.

Ня гледзячы на тое што працоўныя працэсы ў школе набылі яснасьць і да некаторай ступені канкрэтызаваліся ня толькі па школах дасьледчых і паказальных, але і ў частцы звычайных сямігодак, кіруючыя нізавыя органы на мясцох разумеюць гэта пытаньне пасвойму—як фізычную працу ў вясковай школе.

Каб фізычная праца вучняў у школах была больш відавочнай, дык са школьнага каштарысу (ня ведаю ці ўсюды,—чуў ад настаўнікаў **Заслаўскага і Самахвалавіцкага раёнаў**) зьняты тэхпрацаўнікі, а іх праца мае быць перакладзена на плечы вучняў.

Такое зьявішча гэта перагіб палкі ў шкодны бок, бо гатыя працэсы вябудуць мець аніякага навуковага абгрунтаваньня, а яшчэ менш—належнае ўвагі з вучэбным матар'ялам.

Калі да гэтага дадаць, што самаабслугоўваньне ня можа адбыцціся бяз прымусу, без перашкоды звычайным школьным заняткам, дык стане відавочнай шкоднасьць такога зьявішча якое ставіць вучня ў поўнявольнае становішча і можа адварочваць вучняў ад працы, а не прывучаць да яе.

Такая форма працоўных працэсаў, як колка і рэзка дроў, мыцьцё падлогі і г. д. не павінна мець месца ў савецкай школе, дзе ўсякая праца павінна мець у першую чаргу навучальна-выхаваўчы сэнс.

Спроба самаабслугоўваньня ўжо мела месца ў жыцьці нашае школы у 1918-20 г. г., але мы памятаем, што школы тады значны час зусім не займаліся, а калі якая-колечы праца і вялася, дык у брудным, пыльным, сьцюдзёным памяшканьні.

Вярочацца назад да пядаўняга мінулага ня варта. Трэба захаваць і разьвіць вопыт набыцьця працоўных навыкаў праз гурткавую працу, а таксама паглыбіць нагляд дзяцей за падтрыманьнем у належнай чыстаце і апратнасьці памяшканьня, прыбранага да заняткаў тэхпрацаўнікам. Па многіх школах санкамісіі і вучнёўскае самакіраўніцтва з гэтай задачай спраўляюцца.

Асноўная задача школы—ня ў фізычным абслугоўваньні школы.

**І Масюкевіч.**

# На ўсебеларускай фізыка-матэматычнай канфэрэнцыі.

*(Уражаньні настаўніка—удзельніка канфэрэнцыі).*

Жыцьцё настаўніка сямігодкі ў далёкіх раёнах не багата здарэньнямі і зусім бедна ў сэнсе атрыманьня вестак аб тых ці іншых дасягненьнях навукі. А таму скліканьне канфэрэнцый зьяўляецца сьветлым праменем для нашага брата, што і чакаў я ад тэй фізыка-матэматычнай канфэрэнцыі, якая адбывалася ў Менску пры пэдфаку з 3-га па 8-га студзеня гэтага году. Пытаньні позвы закранулі самыя балючыя мейсцы школьнага курсу як фізыкі, так і матэматыкі. На вялікі жаль, такіх дакладаў было пастаўлена каля 22, і вядома, што да 5 дзён належным чынам распрацаваць самыя сур'ёзныя бакі фізыкі і матэматыкі было немагчыма. Большасьць дакладаў ніякага ўражаньня не зрабіла, як даклады «Крызіс асноўных паняцьцяў фізыкі і матэматыкі» праф. Громмера (і чытаўся ён вельмі дрэнным языком), а таксама «Напрамак сучаснай матэматычнай думкі»—дац. Дыдыркі і інш. Ня вельмі добра была і за спроба арганізацыйнага боку. Кожны дакладчык жадаў казаць шмат часу і заціграваў час, а таму на перапынкі адводзілася вельмі мала часу. У перапынак-жа трэба было аглядаць і выстаўкі, а таму на адпачынак амаль што нічога не заставалася. Вечарам даклады слухаліся ўжо з хворымі галовамі.

Зусім не стаяла пытаньне, як зьнішчыць тыя недахопы ў сучаснай школе, што ёсьць зараз, бо кожны дакладчык, як гэта назіралася на матэматыч. сэкцыі, казаў ад сябе і мала карыстаўся праграмай НКА, разгляд якой нават зьня і з позвы дню. Такім чынам, аб сваіх балючых пытаньнях ня прышлося і гутарыць, а абмежавацца заслухоўваньнем гатовых рэцэптаў, якія складзены выключна на падставе вопыту менскіх школ і нічога рэальнага для мейсц даць не маглі.

Некаторыя даклады, як Круталевіча, Пятосіна насілі вельмі элемэнтарны характар, і іх магчыма лічыць проста лекцыямі, якія робяцца перад вучнямі, а не дакладамі для выкладчыкаў сярэдніх школ.

Самымі цікавымі былі даклады праф. Млочак, якія чыталіся на тэмы аб вывучэньні геамэтрычных форм, прыблізкаваных лікаў і довады ў матэматыцы. Добра знаёмы з працай замежных школ і навейшымі там дасягненьнямі, ён аў яскравы малюнак таго, як павінна будавацца праца па вывучэньню пастаўленых пытаньняў. На вялікі жаль, ён зусім ня ведае беларускіх праграм і ўмоў нашых школ, а таму з практычнага боку дакладаў скарыстаць нельга.

Усё-ж канфэрэнцыя дала нейкую карысьць. Кругапогляд пашырыўся, абмяняліся некаторымі думкамі. Для больш здавальняючага правядзеньня наступных канфэрэнцый дэканату пэдфаку не бходна палепшыць арганізацыйны бок, за некаторы час да пачатку канфэрэнцыі накіраваць на мейсцы тэзісы галоўных дакладаў і даць належнае мейсца для гутарак аб працы на мясцох. Таксама ня варта загружаць абвестку пытаньнямі.

**Удзельнік.**

Амсьціслаўль.

# ШКОЛА НА ГРАМАДЗКІМ ФРОНЦЕ.

## Вопыт трэба замацаваць.

(Езярышчанскі р-н. Віцебшчына).

Па ўсіх сельсаветах раёну адбыліся канфэрэнцыі вучняў з прадстаўніцтвам: ад першых двух груп—адзін вучань ад пяці, і старэйшыя поўнасьцю.

Мэта канфэрэнцый — выклікаць у дзяцей актыўны ўдзел у перавыбарах саветаў, выпрацаваць наказ ад вучняў будучаму сельсавету і абгаварыць жыцьцё і становішча школ.

На канфэрэнцыю вучні ішлі з вялікай цікавасьцю і актыўна аднесьліся да абгаварэньня пытаньняў позвы дню. Шмат задавалася пытаньняў дакладчыкам, вучні таксама выступалі ў спрэчках па розных галінах школьнага і грамадзкага жыцьця.

Дзеля прыкладу прывядзём наказ вучняў **Руднянскага** сельсавету. Канфэрэнцыя ўхваліла прасіць РВК выдаць вучням-беднякам штодзённа па 200 грам хлеба і гарбату у мясцовай чайной, а таксама хадайнічаць перад уладай аб спыненьні продажы сьпіртных напіткаў, на якія бацькі псуюць грошы і затым п'яныя зьдзекуюцца над жонкамі і дзяцьмі.

Наогул адчувалася сьвядомасьць і сур'ёзнасьць нашых школьнікаў.

Трэба заўважыць, што такія канфэрэнцыі ў раёне праводзіліся ўпяршыню, і вынікі іх як з боку выхаваўча-грамадзкага, так і з практычна-жыцьцёвага вельмі карысны.

Будзем спадзявацца, што наш вопыт у далейшым замацуецца.

А. Трутнёў.

## Вучнёўскае самакіраваньне.

(Баршчоўская школа, Гом. акр. і раёну).



У бягучым навучальным годзе самакіраваньне дзяцей пераведзена ў нас на зьвеньнявую сыстэму.

Праца выходзіць і па-за сьцены школы. Напрыклад, зьвеньні **„на дапамогу хаце-чытальні“**, **„юны мастак“**, **„культурнік“** выконваюць грамадзка-карысную працу.

Даволі зьвернута ўвагі і на ўнутрана-школьны бок. Тут разгарнулі працу зьвеньні **„санітар“** **„юны прыроднік“** і інш.

Дзеці пачынаюць цаніць калектыўную грамадзкую працу. Зьвеньні, як першасткову форму самакіраваньня вучняў, трэба лічыць лепшай сыстэмай як вучэбна-выхаваўчай працы, так і ў сэнсе выхаваньня.

На здымку зьвяно **„культурнік“** за працай (прагляд газэт і падрыхтоўка сьпісу дзіцячых кніг, атрыманых для школы з кніжкі хаты-чытальні).

М. Альбіцкі.

## Вучні—палітвязьням капіталістычных краін.

(Юравіцкая сямігодка, Мазыршчына).

У канцы сьнежня месяца адбыўся сход вучняў сяброў ячэйкі МОПР'у. На сходзе быў заслухан даклад аб значэньні МОПР'у ў сучасны момант, калі барацьба працы з капіталам вельмі ўзмацнілася, адбываюцца стачкі, забастоўкі і лёкауты ў многіх дзяржавах.

Адначасова з выяўленьнем ролі МОПР'у, у дакладзе быў зроблен кароткі агляд міжнароднага становішча СССР і БССР, як прымежнай дзяржавы.

На сходзе паўстала пытаньне аб зборы сродкаў у карысьць МОПР'у. Хоць вучні зьяўляюцца ў большасьці дзецьмі беднаты і самі забясьпечаны ня вельмі добра, усё ж збор сродкаў пачаўся тут-жа на сходзе. Вакол стала прэзыдыуму вырас цэлы натоўп дзетвары, жадаючай прынесьці сваю лепту на сусьветную справу працоўных. Вядомая рэч, што школьнікі пры сваёй забясьпечанасьці ня могуць сабраць дзесяткі рублёў, але даражэй за дзесяткі рублёў той энтузіязм і шчырасьць, з якой школьная моладзь адносіцца да абаронцаў працоўных у капіталістычных краінах. Лукашэвіч.

## Змагаемся за культуру.

Вільшчынская школа сялянскай моладзі.

У гэтым годзе вучні нашае школы для грамадзкай працы падзелены на асобныя сэкцыі па асобных галінах працы.

**Сельска-гаспадарчая сэкцыя** арганізавала 4 с. г. гурткі, якія ахапляюць 50 штатных сяброў гуртка і 27 наведваючых нерэгулярна. У ліку гэтых сяброў ёсьць шмат жанчын.

За апошні час па гуртках прапрацаваны, як галоўныя пытаньні, пастанова сэсіі ЦВК СССР аб падняцьці ўраджайнасьці. У выніку з гэтай працы некаторыя сябры гуртка зьбіраюць попел, ачысьцілі насеньне і г. д.

**Зьвяно па ліквідацыі няпісьменнасьці** арганізавала тры гурткі, якімі ахоплена 30 чалавек. Праца вядзецца рэгулярна.

**Справаздачнае зьвяно** займаецца выдачамі розных даведак як тлумачэньне законаў, міжнародных падзей і наогул пытаньняў рознага характару.

**Зьвяно па чытцы газэт** вядзе працу ў 3-х вёсках. Кожную суботу яно выходзіць на вёскі для чыткі.

**Зьвяно па ўпарадкаваньню** большай часткай працуе ў школе. Але ж і на вёсцы агледжаны студні, дадзены належныя парады па пытаньнях санітарыі і гігіены.

**Зьвяно па распаўсюджваньню кніг і газэт** працуе ў 4-х вёсках.

За тры месяцы сабрана 140 падпісчыкаў на газэты і часопісі. Большасьць іх гадавыя і паўгадавыя на „Б. В.“ і «Чырв. Зьмену».

**Зьвяно па працы сярод жанчын** вядзе працу ў 2-х вёсках. У адной з іх арганізаваны санітарны гурток а ў другой—гурток гародніцтва. Выхады робяць кожны тыдзень, чытаецца спэцыяльная літаратура як па жаночых хваробах і іншая.

Гэтай працай сялянства здаволена.

М. Макарэвіч.

Койданаўскі р., Менс

